Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. ЦАНА НУМАРУ 20 ГР.

№ 8 Нядзеля 20 Траўня 1928 г. м. Вільня. Год I

# ГРАМАДЗЯНІН

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ДУМКІ

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

Падпісная цана на 1 месяц 50 грашэй, на 2 месяцы 1 злоты. Заграніцу ўдвая даражэй. | Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Zawalna 6, m. 5, | АБВЕСТКІ ПА ЎМОВЕ

## Журнальная этыка.

Вялізарнае значэньне прэсы ў сучасным жыцьці, як магутнага чынніка грамадзкай апініі, усім добра ведама. Недарма яна названа шостаю дзяржаваю.

У дэмакратычных дзяржавах, дзе ёсьць фактычная свабода друку, прэса спаўняе высокую місыю грамадзкага ўзгадаваньня, узвышаючы маральны ровень грамадзянства і змагаючыся з духоваю цемраю ў імя вышэйшых ідэалаў чалавецтва.

Німа тэй сілы, якую можна было-бы праціўставіць магутнай сіле прэсы. Вось дзеля чаго барацьба за грамадзка-палітычную вольнасьць, культурнае адраджэньне і нацыянальную незалежнасьць заўсёды і ўсюды пачыналіся з барацьбы за свабоду і незалежнасьць прэсы. Дзе німа свабоды прэсы,там німа ніякай свабоды.Лепшым прыкладам гэтага служыць савецкая дыктатура, манапалізаваўшая прэсу і зрабіўшая з яе галоўны сьродак барацьбы за камунізм.

Адсюль відаць, якую вялізарную адказнасьць нясуць тыя, хто трымае ў сваіх руках органы прэсы. Калі гэты магутны чыннік апыніцца ў неадпаведных руках, дык становіцца самым шкадлівым сьродкам. Каб належна выкарыстаць свабоду прэсы ў свабоднай дэмакратычнай дзяржаве, патрэбна адпаведнае выхаваньне тых, хто кіруе гэтаю магутнаю сілаю. У першую чаргу гэта найбольш датычыцца беларускай прэсы ў нас у Вільні.

З прыкрасьцю трэба прызнацца, што папаўшы ў неадпаведныя рукі, ня ўсе органы нашае прэсы выконваюць высокую місыю грамадзкага служэньня і замест асьвятла нясуць грамадзянству цемру, узаемную ненавісьць і духоўную атруту. Усякі бруд, ілжа, узаемная абраза, паліцыйныя даносы і палітычныя рэвэляцыі выносіліся на шпальты нашае прэсы і паслужылі на'т матар'ялам для пракурораў ў працэсе Грамады. На абразу ў друку ўжо перасталі рэагаваць, тлумачучы гэта тым, што афіцыяльнымі рэдактарамі некаторых беларускіх часопісаў зьяўляюцца падстаўныя неадпаведныя асобы, г. зв. «зіц-рэдактары», за плячамі якіх хаваюцца фактычныя кіраўнікі гэтых органаў. Дзеля гэтага зьмяшчаецца ў газэтах ня тое, што патрэбна для шырокіх колаў грамадзянства, што можа яго цікавіць і быць для яго карысным, а тое, чым можна абразіць свайго палітычнага ці асабістага праціўніка. Пры гэтым у выбары мэтаў, выразаў і стылю пераходзяцца ўсякія граніцы прызваітасьці. Рэкорд у гэтым пабіваў і пабівае цяпер орган Янкі Станкевіча, нашага беларускага пасла і дыплёмаванага філёлёга, пад назоваю „Народ“.

Нічога падобнага не заўважваецца сярод іншых нацыянальнасьцяў, дзе няма зіц-рэдактараў. Адказныя рэдактары — яны-ж і фактычныя кіраўнікі газэтаў, адказваючыя юрыдычна і маральна за ўсё, што зьмяшчаецца ў іх органах.

А за тым як у польскіх, гэтак і ў жыдоўскіх журналістаў маюцца свае сындыкаты журналістаў, якія апрача матар'яльнай самадапамогі яшчэ стаяць і на варце журнальнае этыкі, дзякуючы чаму там і ня даходзіць да зьневажэньня гэтае этыкі.

Адсюль заклік нашых пісьменьнікаў і журналістаў, агалошаны ў мінулым ці 1926 г. ў аднэй з бел. газэт у Вільні да стварэрьня саюзу газэтных працоўнікоў, у сучасны мамэнт павінен знайсьці як найбольшы водклік, бо толькі агульнымі сваімі высілкамі зможам аздаравіць нашую прэсу і спыніць нікаму не патребную і ня маючую агульнага значэньня лаянку пасобных, пакрыўджаных у сваіх амбіцыях і зводзячых дзеля гэтага свае асабістыя разрахункі асобаў.

І гэтым толькі дакажам, што на роўні з развоем нашае прэсы-разаўецца і пачуцьцё газэтнае этыкі, бо, як бачым, нажаль, на'т загранічныя дыплёмы не даюць гэтага.

# Дарэмныя спробы.

Пасьля няўдалых выбараў да Сойму і выхадзе п. А. Паўлюкевіча з арганізацыяў і палітычнае працы на Віленшчыне мы пісалі, што гэта не адаб'ецца на нашых культурна-гаспадарчых арганізацыях. Гэтым мы мелі на ўвазе Т-ва „Прасьвету" і Камітэт па Справам Самаўрадаў, якія былі наймення пад уплывам палітыкі п. А. Паўлюкевіча. І гэтыя арганізацыі зусім безхваробна перанясьлі гэты ўнутраны крызыс, ня гледзячы на часовы грашовы крызыс, наступіўшы ў выніку няўдалай выбарчай акцыі і галоўнага гаспадараваньня. За гэты час не развалілася ніводзін з існуючых гурткоў „Прасьветы", ня было ніводнае гэтак званае „здрады" сярод гэтых арганізацыяў. Пачалі рэгулярна выходзіць кожны тыдзень газ. „Грамадзянін" і „Беларускі Рады", якія сваей умяркаванасьцю і артыкуламі на сучасныя тэмы здабылі сабе сымпатыі сярод беларускага грамадзянства. Атручаная ўзаемнаю лаянкаю палітычная атмасфэра значна парадзела...

Але, нажаль, ня доўга цягнулася гэта нязвыклая ў нашых адносінах ідылія. Бышыя павадыры нашых арганізацыяў, прызвычаіўшыяся ў працягу апошніх гадоў да таго, каб каля іхняга імя хаця-бы цаною лаянак вытвараўся шум, пачалі ў гэтым кірунку зноў варушыцца. І, схаваўшыся за плячыма псыхічнахворай і гістэрычнай дзяўчыны Мар'і Станкевічанкі, павялі паход проціў п. Т. Вернікоўскага, які воляю лёсу заняў іх мейсца.

Першым крокам у гэтым кірунку была з ініцыятывы п. А. Паўлюкевіча спроба ўваскрасіць нябошчыцу Беларускую Нацыянальную Раду, фікцыйная дзейнасьць якой спынілася адначасова з палітычнаю сьмерцю яе тварца.

Але гэта ня ўдалося, бо, як мы пісалі, трудна спадзевацца на ўваскрашэньне нябошчыцы пасьля поўнага банкроцтва яе, выявіўшагася ў сьмеху-вартых выніках выбараў да Сойму і Сэнату.

Як другая спроба — высоўваецца камбінацыя з Т-вам „Прасьветаю" ў асобе п. А. Якімовіча, страціўшага свае старшынскія паўнамоцтвы ў „Прасьвеце" ўжо каля году.

Гэты старшыня „Прасьветы" за ўвесь час сваей нібыта працы ў „Прасьвеце" ня толькі не адчыніў у раск даных па ўсяму абшару Віленшчыны і Наваградчыны гурткох „Прасьветы" хаця-ж бы адну прыватную беларускую школу, ня толькі сам не адчыніў аніводнага гуртка „Прасьветы", але сам на'т ніразу не паказаўся ў справах „Прасьветы" на вёсцы.

Праўда, адзін раз пад прымусам п. А. Паўлюкевіча ён зьезьдзіў быццам на рэвізыю ў Наваградчыну. У другі раз, але ўжо ў няўдалай пагоні за соймавым мандатам, быў у Маладэчні.

Вось і ўся ягоная праца, як Старшыні „Прасьветы". А ці скажа хто з гурткоў „Прасьветы", што выслаў ён хоць адзін раз загадзя дэкларацыі на адчыненьне беларускіх школаў, як гэта рабілася ў „Т-ве Школы" і „Інстытуце Гаспадаркі і Культуры". І ці напісаў ён сам хоць 1 адозву? Ці ёсьць у яго хоць-бы прыблізныя даныя, колькі, дзе і праз якія гурткі „Прасьветы" было зложана гэтых дэкларацыяў?

Ці-ж ведае ён дзеля гэтага, дзе ёсьць патрэба ў адчыненьні беларускае школы? А гэта-ж ёсьць галоўнае заданьне ўсіх нашых культурных арганізацыяў. Бо праца ня ў тым толькі, каб паміж сваімі гандлёва-льнянымі інтарэсамі заходзіць раз — два ў тыдзень да цэнтру, дзе месьціцца „Прасьвета", пасядзець адну — другую гадзіну і пасьля трэбаваць сабе пэнсыю.

Ці-ж гэты, страціўшы свае паўнамоцтвы, Старшыня ў сучасны мамэнт мае правы самастойна і без паразуменьня з іншымі сябрамі Цэнтральнае Рады Прасьветы выяўляць тыя ці іншыя крокі ў справах „Прасьветы"? Ці-ж упаважніў яго хто абіваць парогі ў Урадаў і, прэтэндуючы на „нешта", вясьці ўкрытую барацьбу проці Т. Вернікоўскага? Ці сумясьціма з яго цяперашнім становішчам Старшыні „Прасьветы" выстаўляць сваю кандыдатуру ў Старшыні нябошчыцы Бел. Нац. Рады і ўця-

гваць апалітычнае Т-ва „Прасьветы“ ў палітыку, да якой ён раней не хаваў сваей агіды? Ці запамятаў ён, як, заняўшыся льняным гандлям, адбыў „прашчальную“ вячэру ў п. Паўлюкевіча, разлічыўшыся да гроша і, паставіўшы крыж на беларусаў, месяцамі не паказваўся ў цэнтры?

І каб ня выбары ў Сойм, каб ня імкненьне разам з М. Станкевічанкай за ўсялякую цану, хаця-ж бы коштам развалу цэнтру, пралезьці ў Сойм, дык можа і да гэтае пары п. Якімовіч не паказаўся-бы на нашым небасхіле.

Але банкруцтва стала вачавідным і надзеі на народ, на ўплывы М. Станкевічанкі, пра якія яна нам усім пратрубіла вушы, згінулі і цэнтральная „раць“, рынуўшаяся за бўпа мандаты, апынулася за бартом палітычна-грамадзскага жыцьця.

Дык як-жа перажыць гэта?! Як дапусьціць, каб ціша і супакой панавалі тамака, дзе некалі ўсе варыліся ў уласным соку і шляхам уласных тэрораў і інтрыг толькі і трымаліся!

І цёмныя сілы заварушыліся... Ціхай сапай павялі паход пад цытадзель Вернікоўскага. Іхняя міна, выпушчаная праз М. Станкевічанку, паказвае пачатак атакі.

Дык трымайся, Дзядзька!

Але калі Бог ня выдасьць, дык сьвіньня ня зьесьць!..

# Аб чым пішуць беларускія газэты.

„Narod“ — орган Спадара Янкі Станкевіча, беларускага пасла ў Сойм — у сваіх „дзівосах і сьмяхотах“ запярэчвае „Сялянскай Ніве“, якая ў сувязі з новым заложаным ім „Гаспадарчым Зьвязу“ пісала:... „як відзім, дык палянафільскае спадаровае шыла туга, але вылезла на паверх нашай сучаснасьці“... Спадар кажа, што „шыла ня вылязла, бо яго няма“...

Ой, грамадзяніне, спадару! Вылязе яшчэ Чаму-ж ўкрыў, што ў ліку залажыцеляў лічыцца і п. Віслаўх?

„Bielaruskaja Krуп са“ ў № 29 у сваей перадавіцы пад назоваю „Манаполь на працоўнасьць“ зусім слушна адказвае нашым радыкалам з „Голасу Працы“, што падзел імі беларусаў на 2 катэгорыі: працоўных і не працоўных, ці больш па сучаснаму кажучы: на пралетарыят і буржуазію... не адказвае праўдзівасьці, бо... „каму ня ведама, што беларусы — гэта народ малазямельнага сялянства? Бяззямельных, а знача пралетарыяў работнікаў нязначны працэнт..У нас няма непрацоўных па прыкладу іншых краёў, скуль нам той фальшывы падзел прынесяны. Мы ня маем сваіх абшарнікаў, ня маем сваіх прамыслоўцаў капіталістаў, ані на'т т. зв. „кулакоў“. Адсутнасьць у нашым Народзе сваей буржуазыі ёсьць у сучасны мамэнт зьявішчам бадай што выключна беларускім, бо нават народы суседнія, як Літва і Украіна ў гэтым сэнсі ад нас хоць ня шмат, але ўжо рожняцца. А калі так, то становішча ясна, што змаганьне клясавае ў народзе, ў якім няма клясаў — ня можа мець мейсца.

Іншым словам кажучы, кіраўнікі „Голасу Працы“ цалком безпадстаўна прысвайваюць сабе манаполь на працоўнасьць і пацешаюцца, што запраўды працоўныя масы не разбяруцца ў гэтай грубой ігры слоў“... У пачатку гэтага артыкулу „Biel. Kryniсa“ зачапляе яшчэ адну нашую агульную больку, — аб газэтнай палеміцы. Яна кажа: „такая частая палеміка, зразумелая рэч, ня можа адбівацца карысна ў нацыянальным жыцьці нашых шырокіх масаў, наадварот—можа толькі паглыбляць тую сварку і разлом, які ў нечыіх інтарэсах выразна падтрымліваюць некаторыя ворганы...

# Аб „Спадаровых „дзівосах і сьмяхотах“.

„Biel. Kryniса“ піша: „Спадар Янка Станкевіч у сваім „воргане“ „Narod“ зьмяшчае цэлы рад злосных недарэчнасьцяў і наавае іх дзівосамі і сьмяхотамі. Так напрыклад дзеля спогаду паслу Ф. Ярэмічу з прычыны сьмерці яго сына, выражанага рэдакцыяй „Грамадзяніна“, Спадар Янка Станкевіч піша, што Ярэміч „зьнюхаўся“ з Тодарам Вернікоўскім, рэдактарам „Грамадзяніна“!

Таўстаскуры Спадар, як бачым, не патрапіў аддаць чыстай людзкай спагаднасьці чалавеку, будучаму ў вялікім горы, калі ўсякія людзкія, асабістыя і палітычныя разрахункі звычайна адходзяць на бок. Гэта ня дзівосы і ня сьмяхоты, але сумны абраз спадаровай маральнасьці і культуры“.

Аб гэтым запраўды ня бывалым яшчэ выпадку „таўстаскурасьці“ і мы далі сваю зацемку. Мы пішам, што далей ужо і йсьці няма куды. Але спадар напэўна думае, што Ярэміч „зьнюхаўся“ з усім тым грамадзянствам, ўсіх палітычных кірункаў, якое зьявілася і на вынас цела і ў касьцёл, каб выказаць свой людскі доўг спачуцьця чужому гору.

„Голас Працы“ — ворган нашых радыкалаў у № 12 у артыкулі „Кракадзілавы сьлёзы“ піша:

У № 9 спадароўскага „воргану“ „Народу“ з 30.IV. 1928 г. зьявілася перадавіца нейкага Прынскага пад загалоўкам—„Як запраўды было на выбарах“, дзе аўтар яе ліе „горкія сьлёзы“ аб тым, што быццам прыхільнікі радыкальнай беларускай прэсы (па іхняму інтэрнацыяналісты) вельмі пашкодзілі для беларусаў на выбарах, і шчыра абараняе новастворваную шопку для разьбіваньня адзінага сял.-работніцкага руху — „Беларускую Сялянскую Партыю“.

Ен кажа, што мы (зн. „спадароўцы“), каб не пашкодзіць справе беларусаў на выбарах, у тых вакругох, дзе былі вялікія ўплывы „Грамады“—адмовіліся ад дзейнасьці і сваіх уласных сьпіскаў не выстаўлялі.

Значыцца „пашкадавалі“?

Добра! Калі так, дык нашто-ж вы выстаўлялі свой сьпісак у Навагрудзкай вакрузе, дзе былі абсалютныя ўплывы б. „Грамады“? На што вы там „забралі“ (чытай купілі за грошы) некалькі сот галасоў, у той час, як для правядзеньня чацьвертага запраўднага сял.-работніцкага пасла не хапіла толькі 90 галасоў.

Значыць так „пашкадавалі“?

Кажаце, што позна ўзяліся там „ходацца“. Чаму-ж у Лідзкай вокрузе, дзе вы адначасна пачалі працаваць

(чытай падшывацца пад сял.-работніцкіх правадыроў), чаму там, дзе ўсе сял.-работніцкія сьпіскі былі зьлківіляваны, вы пры помачы фальшывага названьня сябе нейкай нацыянальнай часткай „Грамады“ якой ніколі не існавала, бо „Грамада“, мела адну праграму і ніякіх там частак не магло быць, чаму там вы правялі двох сьвіх „спадароўцаў“—новых „Паўлюкевічаў“. новых два тормазы ў адраджэньні беларускага працоўнага народу?!

Чаму там ня позна? Ды вельмі проста

Не выстаўлялі вы сваіх сьпіскаў у пэўных акругох таму, што не маглі знайсьці такі лік падпісоў у беларускім Народзе, які патрэбен для таго, каб выставіць сьпісак. Вашым-жа баявым „заданьнем“ было якраз прапесьці ў кожнай вакрузе і гэтым разьбіваць адзіны сял.-работніцкі фронт.

І вы па меры магчымасьці гэты „сумленна“ выконвалі. Толькі сьвядомасьць сял.-работніцкіх гушчаў была адпорай вам у гэтым.

Цяпер-жа, каб затуманіць вочы працоўным Беларусі вы „ліяце кракадылевы сьлёзы“ аб тым, што ў Польскі Сойм прайшло мала беларускіх прадстаўнікоў!

Дарма!

Сяляне і работнікі ведаюць „в а ў к о ў у а в е ч а й с к у р ы“.

**Як відаць, што ні дзень, спадар становіцца ўсё „папулярнейшым“ і ўсім палітычным кірункам праца ягоная „да густу“.**

# Палітычная хроніка.

## ПОЛЬШЧА.

### Спыненьне польска-літоўскіх перагавораў у Коўні.

Польска-літоўскія перагаворы ў Коўні, ня даўшыя ніякіх вынікаў, спынены на 25 дзён. Літоўская дэлегацыя адхіліла польскую прапазыку аб гарантыйным дагаворы.

### Польска-Літоўскія перагаворы ў Варшаве.

У пятніцу 18 траўня да Варшавы прыбыла літоўская дэлегацыя для перегавораў у наступным складзе: дырэктар дэпартаманту міністэрства заграні́чных справаў Заунюс, дырэктар гандлёвага дэп. мін скарбу Норгайтыс і урадоўцы міністэрства камунікацыі інж. Срода і Саболеўскас.

## ЗА ГРАНІЦАЮ.

### Масавыя арышты сац.-дэмакратаў.

Між 10 і 13 траўня на абшары Літвы палітычная паліцыя арыштавала каля 150 сац.-дэмакратаў.

### Сьмерць Цуруна.

Памёр у Маскве заступнік Старшыні Рады Народных Камісараў Цуруна. Замест яго назначаны Джэнакідзэ, грузін, прыхільнік Сталіна.

### Паўстаньне на Украіне.

З Масквы паведамляюць, што на правабережнай Украіне зноў узнавіўся паўстанчаскі рух. У ўездах Сьвірскім, Таташчанскім і Ушанскім вялікія атрады паўстанцаў робяць, напады на радавыя ўрады.

### Сэнсацыйныя арышты на Украіне.

З Масквы паведамляюць, што Г. П. У. учыніла рад сэнсацыйных арыштаў у Харкаве. Арыштавана 29 чалавек, сярод якіх знаходзяцца ўсе сябры ўраду трэсту „Коксобензон“, абвінавачаныя ў падтрыманьні сувязі з украінскімі контр-рэвалюцыйнымі арганізацыямі.

### Арышт чакістаў у Смаленску.

У Смаленску арыштаваны усе агэнты угалоўнага сьледства ў ліку 20 чалавек за шантаж і хабары.

---

# Казімір Сваяк.

*(Да другіх угодкаў сьмерці).*

Два гады назад – 6 траўня 1926 г. ў Літоўскай палікліні́цэ ў Вільні памёр ад сухотаў К. Сваяк. Пад гэтым псэўдонімам зьмяшчаў свае вершы вядомы беларускі паэт і грамадзкі дзеяч ксёндз К. Стэповіч — брат сучаснага пасла ад Хрысьціянскай Дэмакратыі Альбіна Стэповіча.

8 траўня 1926 г. віленскае беларускае грамадзянства грамадой йшло за труной прадчасна памёршага пісьменьніка. Запраўды прадчасна, бо Казімір Сваяк памёр маючы ўсяго толькі 35 гадоў, у пару разквіту сваей паэтыцкай творчасьці. Страшэнны бізун беларускай інтэлігэнцыі — сухоты адняў ад нас здольнага паэту выдатнага грамадзкага дзеяча і добрага духоўніка.

* * *

Біяграфія Сваяка — тыповая біяграфія беларускага інтэлігэнта. Радзіўся ён у вёсцы Барані, Сьвянцянскага павету. Сын селявіна. Да дзесяці гадоў жыве ў роднай хаце пад даглядам маткі, якая што вечар апавядае яму народныя казкі і пяе народныя песьні, пакідаючы ў душы будучага паэты любоў да хараства народнае творчасьці.

Дзесяці гадоў хлапец жыве ў глухім фальварку, дзе бацька яго меў малочную ферму; ён цэлыя дні праводзіў у таварыстве пастухоў, якія гутараць з ім аб цяжкай долі беларускага сялянства. Усё гэта разам узятае робіць Сваяка надзвычайна чулым на чалавецкае гора.

Прыходзіць час навукі і Сваяк ідзе ў школу ў Сьвянцянах, далей здабывае матуру ў Пецярбурзе і ўрэшце, пад уплывам застаўшагася яшчэ з дзіцячых часоў рэлігійнага энтузыязму, паступае да Віленскае Духоўнае Сэмінарыі. З сэмінарыі, ня гледзячы на насьмешкі і пагарды таварышаў, Сваяк выходзіць нацыяналь-

## Новы начальнік штабу чырвонай арміі.

Заступнікам Тухачэўскага на становішчы начальніка гэнэральнага штабу чырвонай арміі назначаны Шапашнікаў, які ад 1921 да 1925 г. быў кіраўніком аддзелу разьведкі, а затым камэндантам маскоўскага ваеннага вокругу.

## Сытуацыя ў Кітаі.

Палуднёвая армія Чай-Кай-Шэка пасьпешна пасоўваецца на Поўнач. У мяйсцовасьці Ву-Доў захапіла да нявол 7,000 чал. з арміі Чанг-Тсо-Ліна і шмат ваеннага матэр'ялу. Армія Шэка хутка пасоўваецца ў кірунку Тіен-Тэіна, іназемны гарнізон якога складаецца з 4,000 амэрыканскіх жаўнераў, 3,000 францускіх, 1,000 ангельскіх і 500 японскіх. У Шантуне японцы апанавалі сытуацыяй, разьбіўшы шмат кітайскіх войск і захапіўшы шмат ваеннага матар'ялу. Сярод кітайскага насяленьня расьце незадаволенасьць проці японцаў. Асабліва варожа настроены студэнты. Вядзецца анты-японская агітацыя.

## Перад заўладаньнем Пэкіна Палуднёваю арміяй.

Заўладаньне Пэкіна палуднёваю арміяй зьяўляецца пытаньнем часу. Армія Чанг-Тса-Ліна адходзіць у напрамку Манчжуры.

# Праэкт амністыі.

Рада Міністраў прыняла праэкт амністыі для палітычных праступнікаў, які ў галоўных рысах заключаецца ў наступным:

1. У памяць 10-тых угодкаў незалежнасьці Польскае Рэспублікі ўводзіцца амністыя, зьменшаючая памер караў.

2. Амністыя абыймае праступленьні адміністрацыйныя і судовыя.

3. У ваяводзтвах Львоўскім, Тарнопальскім, Станіслаўскім амністыя будзе стасавацца да праступленьняў, узьнікшых у часе ваенных апэрацыяў у 1916—1919 г., і на тэрыторыі усходніх зямель у 1919, 1920 і 1921 гг. за праступленьні падпаленьня, выдачу ваенных тайнаў, шпіонства і г. д.

5. У выпадках выкрыцьця камуністычнай дзеяльнасьці 3 траўня 1926 г., для непаўналетніх, не дасягнуўшых 17 г., а за праступленьні, дакананыя пасьля 3 мая 1926 г. кара зменшаецца на адну трэць.

6. Амністыя стасуецца да ўсіх праступленьняў адміністрацыйных, лясных, друку—за выняткам абразы ў прэсэ.

7. Амністыя датычыць усіх судовых і адміністрацыйных караў, не перавышаючых 3 мес. турмы. У адносінах да асуджаных на сьмяротную казьнь стасуецца бязтэрміновая катаржная турма, а бязтэрміновая турма—15 гадамі. Адпадаюць усе дадатковыя кары.

8. Амністыя не стасуецца да праступленьняў шпіанажу, выдачы ваенных тайнаў, службовых праступленьняў урадоўцаў у часе выкананьня службовых абавязкаў, прапаганды камунізму ў арміі, дзяржаўнае здрады, дэзэртырства, ухіленьня ад ваеннай службы, зьбегу за граніцу, у адносінах іназемных грамадзян, падробку, падпалаў і г. д.

15. Амністыя не стасуецца да абразы у друку. Амністыя стасуецца з дня апублікаваньня.

---

на сьвядомым беларусам і адразу становіцца ў рады змагароў за нацыянальнае адраджэньне беларускага Народу.

З сэмінарыі выходзіць ужо не хлапец энтузыяст, але сьвядомы змагар, ксёндз-народнік, рыцар бяз плямы. З гэтых часоў пачынаецца зароўна паэтыцкая творчасьць Сваяка, як і грамадзкая дзейнасьць. Ён пасылае ў беларускія газэты свае творы, арганізуе беларускія культурна-прасьветныя гурткі, арганізуе беларускі хор, урэшце змагаецца за ўвядзеньне беларускае мовы ў набажэнствы ў касьцёлах і ўсюды, дзе адпраўляе набажэнствы, гаворыць казаньні па беларуску, прыймаючы на сябе дабравольна крыж, пагарду, злосьць і зьдзек з боку тых акружаючых правінцыяльнага ксяндза „зоолёгічных нацыяналістаў", для якіх беларускі рух— нямецкая работа, а беларуская мова — нарэчча тутэйшых мужыкоў.

Усё гэта Сваяк пераажывае, будучы ўжо хворым на сухоты, будучы змушаным што год езьдзіць лячыцца ў Закапанае, паветра якога не памагло нябошчыку Івану Луцкевічу, так сама, як не памагло і Казіміру Сваяку. Бо занадта ўжо абодвы кахалі сваю прыроду і свой Народ, каб на чужыне мець усе тыя псыхалёгічныя абставіны, якія гэтак неабходны для направы здароўя.

1922 год, — год перамогі беларусаў на выбарах у польскі Сойм застае Сваяка пробашчам Засьвірскае парахвіі. У гэтым годзе ў яго быў зроблены вобыск і ён, хворы, быў пад дамовым арыштам цалюсенькі месяц. Нарэшце сьледства было спынена, але наагул уся гэтая справа блага адбілася на здароўі Сваяка, якое і без таго было дрэннае. Пасьля некалькіх паездкаў у Закапанае ён вярнуўся ў Вільню, каб тут, у сэрцы Беларусі, скончыць сваё жыцьцё.

* * *

Застаецца яшчэ падкрэсьліць надта сымпатычны рыс у памёршага, гэта — абсалютная цярпімасьць і талерантнасьць у адносінах да

# Тутэйшая хроніка.

**— Набажэнства з прычыны другіх угодкаў сьмерці сьв. пам. Казіміра Сваяка.** 7 траўня з прычыны другіх угодкаў сьмерці вядомага беларускага пісьменніка і паэты Казіміра Сваяка (кс. Канст. Стэповіч) у касьцеле сьв. Мікалая ў Вільні адбылося жалобнае набажэнства.

**— Першае пасольскае веча.** 19 красавіка б. г. у Народным Доме ў Ашмяне адбылося першае беларускае пасольскае веча, на якім выступаў з прамовай пасол д-р Янка Станкевіч.

**— Ральнічы зьезд у Вільні.** 1 і 2 чэрвеня адбудзецца ў Вільні зьезд дэлегатаў „Zw. Kółek" і земляробных арганізацыяў Віленшчыны. На дзенным парадку стаяць выбары новага ураду.

**— З сындыкату польскіх журналістаў.** 13 траўня адбыўся агульны сход сяброў Сындыкату Польскіх Віленскіх Журналістаў пад кіраўніцтвам старшыні рэдактара Чэслава Янкоўскага. На паседжаньні разглядалася між іншым пытаньне аб стварэньні пры Віленскім Польскім Сындыкаце Журналістаў сэкцыі Жыдоўскіх журналістаў у зьвязку з просьбаю аб гэтым віленскіх жыдоўскіх журналістаў. Большасьць прысутных прыхілілася да гэтае просьбы. Але дзеля таго, што стары статут Сындыкату Віленскіх Польскіх Журналістаў, зацьверджаны ўладамі, не прадбачыць стварэньня пры ім сэкцыі няпольскай нацыянальнасьці, ухвалена адлажыць гэта пытаньне да часу апрацаваньня, ухваленьня і зацьвярджэньня ўладамі новага статуту Сындыкату.

Затым адбыліся перавыбары старшыні ўраду Сындыкату. Засталі выбранымі: старшынёю — Чэслаў Янкоўскі, вядомы польскі публіцыста і сябрамі — Ст. Кодзь, Я. Мацкевіч, К. Акуліч і М. Шыдлоўскі.

**— Суд над „Грамадой".** Працэс над пасламі Тарашкевічам і іншымі перайшоў у самую паважную стадыю. Прамовы пракурораў і абаронцаў закончыліся. Сказалі сваё апошняе слова і падсудныя. Цяпер абвешчаны перарыў на некалькі дзён дзеля прыгавору.

**Чарговы спэктакль у Віл. Бел. Гімназіі** адбыўся ўчора 19 траўня. Адыграна была п'еса Сваяка — „Выбары Старшыні".

**— Ліст п. Бохана.** Рэдакцыя атрымала ліст ад п. Д. Бохана, у якім былшы Старшыня Камітэту ад міран па арганізацыі сьвяткаваньня юбілею арх. Феадосія піша, што не па яго віне ня былі запрошаны беларусы на гэтую ўрачыстасьць. Гэта было зроблена, быццам, для таго, каб унікнуць палітыкі на гэтай урачыстасьці.

Дзіўнае разумленьне палітыкі!..

**— З жыцьця „Прасьветы".** 16 траўня ў памешканьні „Грамадзяніна" пад кіраўніцтвам Сябры Цэнт. Рады п. Т. Вернікоўскага адбылася канфэрэнцыя выдатнейшых сяброў „Прасьветы" Маладэчанскага павету. Абгаварваліся справы рэарганізацыі Т-ва „Прасьветы".

**— Спэктакль і вечарына ў Маладэчне.** 24 траўня ў Маладэчне ў салі кіна адбудзецца спэктакль вандроўнае трупы Т-ва „Прасьветы". Будзе адыграна п'еса „Цені" Фр. Аляхновіча. Затым дывэртысмэнт і скокі.

**— Просьба аб дапамозе.** Як паведамляе „Голас Працы" ў № 10, Віленская Бел. Гімназія зьвярнулася да большасьці Гмінных

---

іншых рэлігіяў. Сваяк быў тае думкі, гэтак рэдка спатыкаючайся сярод духавенства, што асобныя рэлігіі павінн не змагацца паміж сабою, а супрацоўнічаць адна з другой. Як ксёндз і адначасна філёзоф, Сваяк стаяў вышэй касьцельных догматаў.

* * *

Літэратурная спадчына па К. Сваяку даволі вялікая і размеры гэтага артыкулу не дазваляюць на ей спыніцца. Дый бадай што гэта ня так ужо і патрэбна, бо хто-ж з чытаючай Беларусі ня чытаў яго лірычных твораў „Шляхам творчасьці", „Чарку дай браце...", хто ня чытаў яго дасьціпных вершаў-сатыраў, як „Зубр у Беларусі", хто ня бачыў на беларускай сцэне „Янку Канцавога", хто урэшце ня чытаў філёзофічна-рэлігійных твораў ксяндза К. Стэповіча? Творчасьць Сваяка была усебаковай ад сатыры-жартаў да філёзоф. трактату.

* * *

З сумам трэба адцеміць, што ў той час, як ў дзень сьмерці паэты беларускае грамадзянства грамадой споўніла свой абавязак перад памёршым, цяпер у другія ўгодкі сьмерці не праявіла надзвычайнай уважлівасьці ў ушанаваньня памяці Сваяка. Прыкладам можа служыць толькі Студэнскі Саюз, які наладзіў лекцыю аб творчасьці К. Сваяка. Рэшта абмяжавалася кароценькімі газэтнымі зацемкамі, або і зусім бяз іх. Відаць занадта занятыя жыцьцёвымі справамі, каб „траціць" час на ўспаміны памёрших. Беларусы наагул ня ўмеюць шанаваць свае культурныя вартасьці. А шкода, бо каб было наадварот дык, мо' наагул лепш было-б. Застаецца толькі прывесьці словы К. Сваяка:

„Вучы дзяцей ты родным словам,
Каб бацьку шанаваць умелі,
Каб не дражнілі чужым зовам
Сваіх багоў яны ў касьцеле"...

*Ш—оў.*

Урадаў Віленшчыны і Наваградчыны з ветлівай просьбай аб вызсыгназаньні пасільнай дапамогі для падтрыманьня незаможных вучняў, якія паходзяць з вёсак гэтых паветаў.

Шкада, што дырэкцыя Гімназіі аб гэтакай агульна-беларускай справе дае зацемку толькі ў радыкальнай газэце і зусім ігнаруе істную-чую зусім апалітычную часопісь „Беларускі Радны", які ўсё-ж такі бліжэй стаіць да радных беларусаў і гмінаў, маючых беларускую перавагу.

**— Агульны сход „Т-ва Помачы Пацярпеўшым Ад Вайны".** Камітэт Т-ва на дзень 31 траўня склікае агульную зборку сябраў на 6 гадзіну у памешканьні Бел. Віл. Гімназыі дзеля справы перадачы Беларускаму Дабрадзейнаму Т-ву ўсіх функцыяў і маёмасьці Камітэту Помачы Пацярпеўшым Ад Вайны.

**— У Беларускім Навуковым Т-ве.** 13-га траўня адбылося паседжаньне Прэзыдыуму Т-ва. Абгаварывалася справа аб зьбіраньні сьродкаў на будоўлю „Дома Беларускай Культуры". Пастаноўлена: 1) выпусьціць адозву да бел. інстытуцыяў, культурных дзеячаў і прыхільнікаў бел. культуры наагул з просьбай аб магчымай дапамозе, 2) адчыніць у Бел. Каап. Банку рахунак на будоўлю Дома і 3) як першы пачатак паставіць спэктакль.

**— Беларускі сьметнік.**

У газэце „Narod" — органе беларускага пасла Янкі Станкевіча—аказаўся зьмешчаным ліст Мар'і Станкевічанкі па адрэсу п. Т. Вернікоўскага і яго супрацоўнікоў.

Не адказваючы на гэты гістэрычны брэд хворай і з пакрыўджаным у часе выбараў да Сойму самалюбствам вясковай дзяўчыны, у якім няма аніводнага слова праўды і які, дзеля гэтага адкідваем з пагардаю, мы толькі дзівімся таму, як гэта газэта „Narod", зьмяшчаючы ўсялякія бруды, не паважае сама сябе.

Калі ў час выбарчае акцыі яна ў барацьбе са сваімі палітычнымі праціўнікамі, давала ў сябе мейсца пісьмом падобным М. Пятровіча, Міцькі і іншым, дык гэта яшчэ можна было апраўдаць хаця-ж бы „ходаньнем" аб мандат. Але цяпер, калі выбарчыя страсьці прастылі, калі яе кіраўнік дапяў сваей мэты і жыцьцё беларускіх арганізацыяў пачынае паволі прынмаць нармальны і спакойны характар, дык зусім не зразумела, дзеля якіх мэтаў толькі адзіны „Narod" капаецца яшчэ ў памыях і абсалютна накідваецца на ўсіх. Нават гэткі факт, што „Грамадзянін" надрукаваў сваё спачуцьцё сям'е пасла Ярэміча з прычыны сьмерці ягонага любімага сынка, дык і гэта ў „Narodzie" знайшло мейсца ў „дзівосах і сьмяхотах".

Куды-жісьці далей?!

Калі супрацоўнікі „Narodu" ня маюць пачуцьця газэтнае этыкі, а дзеля гэтага і паважаньня да свайго галоўнага кіраўніка, — гэта іхняя справа; дык хоць-бы, нарэшце, пашкадавалі ягонага філёлёгічнага дыплёму і зваиьня беларускага пасла!..

**— Зноў абівае парогі рэдакцыяў.** Мар'я Станкевічанка, як нам перадаюць, абівае парогі рэдакцыяў беларускіх газэт і гістэрычна патрабуе (так, так, — патрабуе!) каб яны перадрукавалі ейны ліст, зьмешчаны ў спадаровай газэце „Народ".

**— „Беларуская школа ў Латвіі".** — Часопісь „Т-ва Беларускіх Вучыцеляў", выходзіць ў Рызе пад рэдакцыяй старшыні гэтага Т-ва п. К. Езавітава. Чарговы № 8 (1) добра выглядае, добрага зьместу і з ілюстрацыямі.

**Ад'езд рольных работнікаў да Латвіі.** Згодна з пастановаю Эміграцыйнага Ураду супольна з Цэнтр. Т-ва Рольнікаў Латвіі 8 траўня адбыўся набор рольных работнікаў у Сьвянцянах, 9 — у Дукштах, 10 — у Вільні. Выезд першай групы да Латвіі адбыўся 11 траўня. Наступны набор работнікаў да Латвіі адбудзецца 16 у Дукштах і Глыбокім, 15 у Паставах, 17 у Маладэчне і Браслаўлі, 18 у Друі і Смаргоні і 19 у Вільні. Выезд другой групы адбудзецца ў дзень набору. Усяго да Латвіі на сельскія работы выедзе каля 500 чалавек.

**— Стан безрабоцьця.** У працягу мінуўшага тыдня на абшары Віленскага ваяводзтва безрабоцьце зьменшылася на 157 чал. Запамогі атрымліваюць 1,007 безработных.

**— Безплатнае радыё у Бэрнардынскім садзе.** З ініцыятывы магістрату места Вільні ў Бэрнардынскім садзе каля летняга тэатру пастаўлена радыё, якім можна карыстацца ад 16 траўня.

**— Ахвяра стаўпецкага магістрату.** Магістрат м. Стаўпцоў пастанавіў асыгнаваць 500 зол. на будову памятніка вядомаму паэту Ад. Міцкевічу.

**— Нашыя эсэры.** Вядомы беларускі эсэр тав. Шыла нешта занядужаў і паклаўся ў шпіталь, але, як кажуць, хвароба ня сур'ёзная і нічаму не пагражае. Другі, таксама вядомы эсэр, п. Мамонька покуль-што яшчэ змагаецца з усялякімі нядугамі і як нас інфармуюць, моцна стаіць на варце сацыяльнага беларускага руху.

**— Ад Рэдакцыі.** З наступнага нумару „Грамадзяніна" пачне друкавацца фэльятон пад назоваю „Маленькія ўспаміны замест фэльятона" у 4 частках. Част. I: „Ой Марына, ой дзяўчына, або „апэль" Мацея Пятровіча да душы вясковай дзяўчыны".

Част. II: „Як яны ўкладалі кандыдацкі сьпісак", або „За мной Народ".

Част. III: „Папяровы Прэзэс або „Помста Паўлюкевічу коштам Вернікоўскага".

Част. IV: „Фінал" або „Дзядзька перамог".

**— Бел. Радны —** у наступным тыдню выйдзе № 6 „Беларускага Раднага".

**„Хрысьціянская Думка"** Выйшаў з друку № 9 часопісі „Хрысьціянская Думка". Зьмест: Д. Анішка — Да сваіх і да чужых; аб Нешпары; Кс. Д-р Я. Р.—З гісторыі хрысь-

янскае апёлогэтыкі; Д-р М. А.—Бог; а. Е. П.—Аб каталіцкай працы між праваслаўнымі; Х. П. Т.—Праўда; Х—Аддзел прак ычнае набожнасьці; 3 каталіцкага жыцьця, кнігасліс, хроніка, календарык, усячына, паштовая скрынка.

— **„Новая Зямля"**. Апошняя поэма Якуба Коласа „Новая Зямля" карыстаецца гэтак вялікім пасьпехам, што выйшла ўжо ў трэйці раз. Папярэднія выданьні шпарка разыйшліся. Дый ня дзіва; бо „Новая Зямля"—адзін з найлепшых твораў сучаснае беларускае літэратуры.

— **Новыя беларускія кніжкі.** Выйшлі з друку наступныя беларускія кніжкі:

„Беларуская катэхізмоўка — для беларусаў каталікоў", перагледжана адумыснай камісіяй пры віленскай Мітрапаліцкай Куры і выдана коштам Я. Е. Віленскага Арцыбіскупа. Цана 20 гр.

Кс. К. Стэповіч — „Голас Душы" цана 2 зл.

— **Беларуска-Польскі Слоўнік.** Як мы даведаліся п. Друцкі-Падбярэскі ўжо заканчвае працу над укладам Беларуска-Польскага Слоўніка і у хуткім часе пачне друкаваць.

— **„Пан Тадэуш" па беларуску.** Быўшы пасол Грамады прафэсар Б. Тарашкевіч, працуе ў вастрозе над перакладам на беларускую мову найвыдатнейшага твору польскае літэратуры—„Пан Тадэуш" — А. Міцкевіча.

— **Арышт б. кіраўніка беларускае друкарні ім. Ф. Скарыны.** Сьледчыя ўлады арыштавалі 29 красавіка б. кіраўніка беларускай друкарні гр. М. Аўрыцевіча. Праз 6 дзён гр. Аўрыцевіч быў звольнены за каўцыю. Ен будзе адказваць перад судом па 129 арт. Карнага Кодэксу.

# Карэспандэнцыі.

## Трэба прасьветы для вёскі.

(Жасьнянская гм. Пастаўскі пав.).

Не дарма ўсе беларускія часопісі кідаюць так гучныя лёзунгі змаганьня з ворагам сялянства-цемрай, бо толькі ў гэтым змаганьні наша сьветлая будучыня і наш дабрабыт. Пачаў разумець гэта і наш селянін. Прачхнуўся ён цяпер ад вяковага сну і забачыў, што далей заставацца так не магчыма, што ён абавязкова мусіць стаць у рады роўных сабе эўрапейцаў.

Перш-на-перш заўважваецца, што ўсе бяз вынятку вельмі пачалі цікавіцца беларускімі кніжкамі і часапісямі. Нават і тыя асобы, якія спачатку сьмяяліся над сваей роднай мовай, якія сароміліся да яе прызнацца, сягоньня бягуць слухаць чытаньне беларускай газэты або кніжкі. Наагул можна з задаваленьнем сьцьвердзіць, што сьведамасьць з дня на дзень павялічваецца. Толькі ў тым бяда, што сьведамасьць гэту ня ўсе аднолькава трактуюць. Адны толькі задаваляюцца тым, каб паслухаць што-небудзь цікавае з газэты ды ізноў ісьці прымацца за свой штодзенны занятак; другія, чытаючы розныя весткі, хочуць браць з іх прыклад і паступаць так, як робяць болей сьведамыя грамадзяне нашай Бацькаўшчыны.

Напрыклад, часта ў паважанай газэце „Грамадзянін" спатыкаем весткі, што сяляне з некатарых мяйсцовасьцяў ня сьпяць так, як у нас: твораць гурткі „Прасьветы", ладзяць спэктаклі, рэфэраты і іншыя карысныя і патрэбныя заняткі для падняцьця ўроўня культуры нашага краю. Чытаючы такія весткі, у нас часта больш сьведамыя адзінкі хочуць залажыць гурткі „Прасьветы", каб не застацца ад сваіх братоў, але большая частка сялян неяк не ахвотна гарнецца да ўсякіх арганізацыяў. Калі хто аб гэтым пачне ім казаць, што развважаньні іх шкодныя, дык найболей прыходзіцца чуць такія адказы: „Досыць вас абманілі раз з грамадой, нам рай на зямлі абяцалі, а пасьля ўсіх упакавалі ў турмы і пад суд і г. д.

Але трэба спадзявацца, што развважаньні гэткія павінны хутка згінуць. Толькі з арганізаванай гушчай народу мы даб'ёмся належных сабе правоў, даб'ёмся роднай школы і паставім на належным роўні наш дабрабыт. Сьведамыя адзінкі грамадзян павінны палажыць усе высілкі ў гэтым кірунку, каб даказаць сялянам, што з упадкам „Грамады" усё-ж такі можна мець новыя арганізацыі і працаваць на карысьць сваей Бацькаўшчыны. Якая-бы арганізацыя ні была, ці то т-ва „Прасьветы" ці іншыя, толькі-бы яна імкнулася да пашырэньня асьветы. Бо кожная арганізацыя імкнецца да направы дабрабыту сваіх сяброў і да здабыцьця для іх супольнымі сіламі пэўных палёгкаў у жыцьці, як у сэнсе духовым, так і агульна-гаспадарчым.

Вясковы.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Як садзіць бульбу?

Ураджай бульбы, як і ўсялякай іншай расьліны і збожжа, шмат залежыць ад насеньня. Бульба дае добры ўраджай толькі тады, калі насеньня добрага, багатага крахмалам і ўраджайнага сорту. Дзеля гэтага пры пасадцы бульбы зьвяртаюць увагу: 1) на вялікасьць, 2) форму, колькасьць і разклад вочкаў, 3) спосаб хаваньня ў зіму і 4) спосаб пасадкі.

Досьледы паказалі, што для пасадкі найлепш надаецца бульба сярэдняй велічыны. Хаця вялікая бульба гэтак сама дае добрыя ўраджаі, толькі каштаўнейшая, бо больш пат-

рэбна на морг. Дзеля гэтага ўсюды ўжываюць для пасадкі бульбу сярэдняй вялічыны.

Часта трапляецца, што няма насеньня сярэдняй вялічыны, а ёсьць ці толькі вялікая, ці малая. Дык у гэткім выпадку малую трэба садзіць не па 2-3 разам, а толькі гусьцей. А вялікую рэжуць. Разрэзаць трэба так, каб, калі садзяцца абедзьве палавіны, дык каб яны мелі аднальковую колькасьць аднолькава вялікіх вочкаў. На бульбе разражняюць два вярхі,— першы, пупцавы, якім бульба трымалася корня. На гетай вярхушцы ёсьць мала вочкаў і слабых. Другая вярхушка мае больш вочкаў і мацнейшых. Дзеля гэтага, калі садзіцца толькі адна палова, а другая застаецца для корму статку, дык трэба пупцавую застаўляць, а садзіць з мацнейшымі вочкамі. А ў тым выпадку, калі бульбы ёсьць мала і трэба садзіць абедзьве палавіны, дык трэба рэзаць яе ўдоўжкі і каб на кожнай з іх была аднальковая колькасьць моцных вочкаў пупцавай і корнявай часткі.

Парэзаную бульбу ня можна садзіць адразу, бо на парэзанай паверхні асядаюць зародышы грыбкоў, шкадлівых бактэрыяў і іншых шкоднікаў, акія нішчаць адразу насадку, а затым куст і ўраджай. Дзеля гэтага разрэзаную бульбу застаўляюць на тыдзень у сухім, цёплым і праветраным мейсцу, каб правяла. Тады абрэзаная паверхня пакрываецца скарынкаю, што захоўвае бульбу ад хваробаў і шкоднікаў. Але нават здаровую бульбу, ня рэзаную, адразу пасьля адкапаньня з канцоў ня сажаюць, а вытрымліваюць, каб правяла, бо гэткая бульба лепш родзіць. Тлумачыцца гэта утратаю вады, зьнішчэньнем рожных грыбкоў і зародышаў грыбкоў, дзякуючы чаму бульба робіцца больш адпорнаю.

У пасеянай бульбе самымі дарагімі зьяўляюцца вочкі. Ведама, што вялікія вочкі даюць больш вялікай, а малыя вочкі больш малой бульбы. Дзеля гэтага там, дзе ёсьць досыць рабочых рук і часу, трэба выбіраць бульбу з вялікімі вочкамі, якая дае лепшы ўраджай. Гэта ў нас павінны рабіць дробныя гаспадары, якія маюць мала зямлі і даволі рабочых рук. Дзе ёсьць мала бульбы, там рэжуць яе на малыя кавалкі з адным вочкам і садзяць па аднаму вочку.

У цёплых капцах ці склепах бульба выпушчае доўгія і тоненькія карэньні. Бульбы з абламанымі карэньнямі ня можна браць для пасадкі, бо яна ўжо слабая і ня дасьць добрага ўраджаю, хаця з кароткімі і тоўскымі карэньнямі можна садзіць, толькі ня можна іх абламліваць, бо на вытварэньне новых патрабуецца шмат сокаў, што шкадліва адбіваецца на ўраджаю.

Затым шмат залежыць ад сорту бульбы. Ёсьць больш 1.000 рожных сартоў бульбы і сярод іх можна выбіраць найбольш адпаведныя для данага грунту і клімату. Гэта можна дасягнуць толькі досьледамі з рожнымі сартамі, бо самыя лепшыя сарты англійскай, нямецкай ці галандскай бульбы ў неадпаведных кліматычных умовах не дадуць добрага ўраджаю.

Маючы на ўвазе рынак, ня можна сеяць бульбу меншых сартоў, бо на яе меншая цана. Гэта можна дапусьціць толькі дзеля таго, што калі ня ўродзіць адзін сорт, дык уродзіць другі. У кожным разе трэба пры выбары сорту бульбы для пасадкі лічыцца ня толькі з рынкам, але і з тым, якая скарэй расьце, смачнейшая і г. д.

## Кармленьне жывёлы сольлю.

Траваедным хатнім жывёлам часта сяляне-гаспадары даюць солі для узбуджэньня ў жывёлы апэтыту. Гэта праўда, што соль у траваедных жывёл узбуджае апэтыт і яны пачынаюць есьці больш. А ў нашых гаспадароў бываюць найболей недастаткі з пошарам, дзеля гэтага мы павінны яго як найбольш эканоміць. Даючы-ж соль жывёле, у яе ўзрастае апэтыт, жар і яна пачынае быць прагавітай. А калі з пошарам скупа, дык жывёла тады апаражняецца і што раз пачынае худзець. Калі-ж пошару хапае, то соль ня трэба даваць жывёле, бо яна падносіць апэтыт толькі часова а пасьля не дае ніякай карысьці. Дзеля гэтаго соль павінна быць выключана з кармовых сьродкаў траваеднай жывёлы.

Як на арганізм здаровы, так і на арганізм хворы, соль не прыносіць карысьці для жывёлы, каторая па прыродзе вельмі жыцьцяздольная. У гэтым выпадку ня можна гадзіцца з інстынктам жывёлы, якая вельмі падкая на соль. Можа здарыцца, што жывёла мае хваробу якіх небудзь органаў стрававараньня і будзе з вялікай жаднасьцю шукаць солі у такім выпадку, каб яна дастала солі, то зьела-бы пошару столькі, колькі ня мог-бы пераварыць яе арганізм і гэта часта канчаецца сьмерцьцю. Калі ў каго-небудзь здарыцца такі выпадак абжорства, то соль тады можна толькі ўжыць, як лекарскі сьродак.

Коням даецца ад 0, 61 да 0,92 фунта. Рагатай жывёле 1. 2 фунта; авечкам і сьвіньням 0,146 да 0,138 ф. гэтыя даныя можна ужываць для лячэньня ад абжорства. Соль-жа, даная жывёле ў наступных дачах, будзе ўжо труцізнай для арганізму: каню 2, 4-3, 6 фунта, рагатай жывёле 3, 6-6, 1 ф., авечкам 15-20 лотаў, сьвіньням 10 15 лот. Праявы атручэньня сольлю жывёлы можна пазнаць наступным спосабам: атручаная сольлю жывёла пакрыта цэлае лета ледзяным холадам; па цэлу ў яе праходзяць частыя сутаргі, за каторымі наступае аслабленьне і параліч задніх ног. Хваробы гэтыя часта канчаюцца сьмерцьцю.

## Што трэба рабіць калі кабыла не жарэбіцца.

Часта спатыкаецца па нашых вёсках, што досць сытая і добрая кабыла не жарэбіцца. Дзеля гэтага некаторыя практыкі гадоўлі коняў радзяць зрабіць гэтак: 1) злавіць зялёную жабу і даць яе жывую зьесьці кабыле, 2) такой кабыле ў корме даваць крапіву. А калі кабыла патрабуе жарабца і сама ёсьць сытая, то пе-

рад спушчаньнем трэба яе зусім змарыць яздой. Бо ёсьць некаторыя кабылы, якія не прымаюцца толькі дзеля таго, што надта тлустыя.

### Стан пасеваў у красавіку.

Стан пасеваў у красавіку г. г. ў параўнаньні з сакавіком дзеля ад'емных кліматычных умоваў значна пагоршаў. Па адметкам гэта можна выразіць так:

| | 1928 г. | | 1927 г. |
|---|---|---|---|
| | красавік | сакавік | красавік |
| азімая пшаніца | 2,9 — 3,1 | | 3,5 |
| — жыта | 2,7 — 2,9 | | 3,3 |
| — ячмень | 2,7 — 2,6 | | 3,3 |
| — канюшына | 2,9 — 3,0 | | 3,5 |

У пачатку мая пэўнае палепшаньне наступіла ў ваяводзтвах Пазнанскім і Паморскім. У цэнтральных ваяводзтвах стан азіміны не зьмяніўся. Затое пагоршыў у ваяводзтвах усходніх.

Спазьненьне ў палявых работах гэтак сама значнае. Да 7 траўня па ўсім абшары Дзяржавы выканана каля 75% работы пры ярыне і 25 50% пры пасадцы бульбы і цукровых буракоў.

# РОЗНАЕ.

## Як адбываюцца выбары да Сойму і Сэнату ў іншых славянскіх дзяржавах.

Варункі выбараў у славянскіх дзяржавах амаль што тыя самыя, як і у нас у Польшчы і рожняцца толькі ў залежнасьці ад унутраных устрояў кожнае паасобнае дзяржавы.

У Чэхаславацыі. напрыклад, абавязвае ўсіх роўнае, тайнае і прапарцыянальнае выбарчае права. Праўнымі да галасаваньня зьяўляюцца ўсе грамадзяне, як мужчыны, гэтак і жанчыны, якія маюць закончанымі 21 год. Гэта да Сойму, а да Сэнату — 26 год, пры варунках, каб у той гміне, дзе будуць галасаваць, пражывалі-бы ня менш, як 3 месяцы. Кандыдатаваць у Сойм, г. зв. Народнае Сабраньне, могуць, хто мае ня менш 30 г. і ў Сэнат — ня менш 45 гадоў.

Увесь абшар Рэспублікі дзеліцца на 25 выбарчых вокругаў, якія выбіраюць ад 6 да 25 паслоў у Сойм, а да Сэнату на 12 вокругаў.

Лісты кандыдатаў павінны быць падпісаныя ня менш, як 100 асобамі.

Усяго выбіраецца 300 паслоў у „Народнае Сабраніе" на 6 год і 150 сэнатараў у Сэнат на 8 год. Праэкты закону могуць унасіць і Народнае Сабраньне і Сэнат. Але закон прыймаецца толькі па ўхвале абедзьвюх Палатаў.

У выпадку, калі закон Палатамі адкінуты, дык урад мае права зьвярнуцца за зацьверджаньнем да галасаваньня ўсяго народу (плебысцыту).

У Юга-Славіі законадаўчай уладай ёсьць кароль разам з парлямэнтам, г. зв. Народнай Скупшчынай.

Выбары ў Скупшчыну праводзяцца ў такі спосаб, што на 40 тысячаў жыхараў выпадае 1 пасол, з рэшты, што больш 25 тысячаў, дае права да далейшага 1 пасла. Гэткім чынам колькасьць паслоў у парлямэнце ёсьць ня сталая і залежыць ад агульнай лічбы жыхараў у час вызначэньня выбараў, а ў зьвязку з гэтым і колькасьць паслоў ад паветаў кожны раз не аднолькавая і выказвае часам досыць вялізарную рожніцу.

Права галасаваньня мае кожны грамадзянін — мужчына, які скончыў 21 год, апрача жаўнераў чыннай службы. Паслом можа быць выбраны кожны грамадзянін дзяржавы, які мае 30 год і ўладае дзяржаўнай мовай.

У Баўгарыі так сама законадаўчай уладай ёсьць цар разам з Народным Сабраньнем. Народнае Сабраньне складаецца з 2-х сабраньняў— са звычайнага, у якім засядаюць 247 паслоў, выбраных на 4 гады і з вялікага — з падвойным лікам паслоў, выбраных у такі самы спосаб, як і ў звычайнае Сабраньне, прычым 1 пасол прыпадае больш-менш на 10 тысячаў жыхараў.

Правы на галасаваньне і на выбіральнасьць тыя самыя, як у Чэхаславацыі і Юга-Славіі, але кожны грамадзянін, маючы гэтыя правы, абавязкова павінен уладаць і дзяржаўнай мовай.

Кабеты правоў выбарчых і выбіральных не маюць.

## Колькі важыць зямля?

За некалькі месяцаў будзе ўжо падлічана ў прыблізнасьці, колькі важыць зямная куля. Сёньня ўжо можна казаць, што вага яе будзе ня меншая, як шэсьць тысячаў трыльёнаў тонн. Каб пагрузіць усей зямлёй цягнік, дык апошні павінен быць даўжынею 2.000.000.000.000 кілямэтраў.

## Ажабрачаная Англія.

Паводле афіцыяльных даных у студзені сёлетняга году ў Англіі, ня лічачы Шатляндыі, было зарэгістравана 999.100 асобаў, атрымліваючых дапамогу па беднасьці. У параўнаньні са сьнежням 1927 году лік атрымліваючых дапамогу па беднасьці павялічыўся на 27.000, а ў параўнаньні са студням 1914 г. — 622.000 чалавек.

Ня зьнішчайце газэты! Прачытаўшы перадайце суседу!

# Навука і тэхніка.

## Паветраная камунікацыя між Старым і Новым Сьветам.

Адно з англійска-амэрыканскіх лётных таварыстваў праэктуе залажыць рэгулярную трансатлянтычную паветраную камунікацыю пры помачы вялізарных аэрастатаў. Першы ўрачысты лёт адбудзецца ўвосені г. г. па лініі Лёндан-Манрэаль-Нью-Ёрк, для якога будзе выкарыстаны англійскі аэрастат R—100.

Гэты аэрастат, які хутка ўжо будзе выбудаваны, мае 3 паверхі ўнутры. Экіпаж будзе знаходзіцца ў ніжнім паверху, які мае супольную сталоўню і асабістыя кабіны. Дзьве драбіны вядуць з гэтага паверху да сярэдняга, дзе знаходзяцца дзьве шкляныя галеры для шпацару. Іх вялічыня 15 мэтраў шырыні і 11 мэтраў даўжыні) надаецца таксама для скокаў. Затым ёсьць агульная сталоўня на 50 асобаў і кабіны на гэтулькі-ж асобаў. Кабіны (купэ) выбудаваны на кшталт параходных: маюць ложкі, умывальні, электрычнае сьвятло, мейсца для багажу і г. д.

На верхнім паверху знаходзяцца 50 другіх кабінаў, курылка і 2 балконы, выходзячыя на шкляныя тэрасы, пазваляючыя пасажырам аглядаць спазоры.

Умывальнікі і уборныя будуць наладжаны, як у экспрэс—цягніках. Электрычнае сьвятло, ацяпленьне і электрычныя кухні, як у гатэлі, дапаўняюць камфорт гэтага аэрастату.

Вось некалькі лічбаў, іллюстрыруючых памер гэнага палаца-парахода R—100.

Даўжыня—221 мэтр, абойм—187,000 кубічных мэтраў, вага—каля 156 тонаў (тона—61 пуд), сіла 6 матораў—4,200 Н. Р. (сілаў каня), мейсц для пасажыраў 100, максымальная хуткасьць—147 кілям. у гадзіну.

Гэты аэрастат будзе мець вялікую перавагу над камунікацыяй як параходамі, гэтак і аэраплянамі. Ён будзе курсаваць значна хутчэй за параходы, без хістаньня, а значыць і без марской хваробы. Кошт пераезду праз Атлянтычны акіян мінімальна будзе складаць 400 даляраў ад асобы, час пералёту з Лёндану да Нью-Ёрку — 48 гадзін.

Бясьпека язды на аэрастатах большая, чым па чыгунцы. Перад вайною ў Нямеччыне на аэрастатах (Цэпэлін, Пэрсэваль) было перавезена 40,000 пасажыраў без нешчаслівага выпадку. Цяпер у Нямеччыне рэгулярна курсуе малы гандлёвы аэрастат „Bodensee" між Бэрлінам і Фрыдрыхсгамам. Ужо зрабіў 103 пералёты без ніякіх выпадкаў.

Вялікія два пералёты праз Атлянтычны акіян—у 1919 г. на англійскім аэрастаце R—34, які пераляцеў да Амэрыкі і вярнуўся назад і ў 1925 г. на Цэпэліне „Los Angeles" з Фрыдрыхсгафэна ў Нямеччыне да Лакэгэрста ў працягу 80 гадзін,—гэтак сама адбыўся без нешчасьлівых выпадкаў.

Гэткім чынам у хуткім часе будзе уведзена самая прыемная, бясьпечная і стасункова некаштоўная паветраная камунікацыя між Старым і Новым Сьветам.

## „Шкло жыцьця".

Аднаму ангельскаму прафэсару ўдалося адшукаць празрыстае шкло, якое, у адзнаку ад звычайнага шкла, прапушчае сонечныя ультрафіалетавыя праменьні. Шкло гэта завецца „шклом жыцьця". Пры досьледах гэта шкло дало надзвычайныя вынікі. Яно было выпрабавана ў лёнданскім зоолёгічным парку ў клетках тыграў. Гэткае шкло ўжо вырабляецца і ў Нямеччыне.

Гэта шкло дасьць вялікую карысьць у дамох вялікіх гарадоў, бо жыхары іх атрымаюць магчымасьць карыстацца нармальным сонечным сьветам нават седзячы дома.

# Бібліяграфія.

**Працы Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў Менску. № 6—7.**

(*Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі Менск 1925 стар. 318*).

Бальшавікі, трэба прызнаць, умеюць добра выдаваць кнігі. Добрая папера, друк, каркэта, загалоўкі аж у 4-5 мовах... Усё разам узятае, увесь вонкавы выгляд кніжкі, гэтак і сьведчыць аб добрых прынамсі імкненьнях выдаўцы. Але калі глянуць у тэкст, калі пачынаем чытаць артыкул за артыкулам, дык дзіву даешся.

1925 год. Паводле афіцыяльных савецкіх даных беларусізацыя ў тым ліку і Беларускага унівэрсытэту, ідзе шпаркім тэмпам. I вось у афіцыяльнай часапісі унівэрсытэту з 20 артыкулаў толькі тры друкаваных на беларускай мове, 16 у расейскай і 1 у жыдоўскай. Прычым рэдакцыйная калегія знайшла патрэбным адцеміць гэта і „з вялікім задаваленьнем адцеміць больш беларускі характар працаў у параўнаньні з папярэднімі выпускамі". Бо ў папярэдніх нумарах ніводнага артыкулу ў беларускай мове ня было.

Гэта што да мовы. Глядзімо зьмест. 6 артыкулаў па сацыялёгіі. З іх 5 С. З. Каценбогена (Ленин о государстве), С. Я. Вольфсона (К вопросу марксизма и государства), И. В. Гермкова (К идее государства в Лассале), Д. А. Жаринова (Крестьянская дифференциация перед падением крепостного права), И. Я. Герцыка (Теория ренты в связи с трудовой теорией стоимости), тэнденцыйна-агітацыйнага характару і толькі адзін артыкул строга навуковы—гэта артыкул праф. В. Пічэты „Состав населения в господарских дворах Западной Белоруссии в пореформенную эпоху".

Яшчэ тры артыкулы прысьвячаны творчасьці расейскага паэты Пушкіна.

Далей ідуць артыкулы:

Никольскій: Талмудическая традиция об Иисусе.

В. Перцов: Историческ. идеологія Бисмарка.

И. Сосис: К истории антиеврейскаго движения в России.

С. Каценбоген: Правовое положение евреев в Белоруссии накануне революции 1917 г.

М. Б. Вейнгер: Исследуйте еврейские диалекты. (на жыд. мове).

Як відаць з самага зьместу кніжкі талмуд і Бісмарк, Пушкін і Ленін займаюць больш мейсца 4—6 разоў, ад мейсца, занятага артыкуламі на беларускія тэмы.

Найлепшым з апошніх з'яўляецца артыкул М. Піотуховіча „Францішак Багушэвіч як ідэолёг беларускага адраджэньня і як мастак". Падрабязны разбор творчасьці Багушэвіча без дамешкі тэнденцыйнага асьвятленьня некаторых яго вершаў. Такгама добры з навуковага боку арт. Дружчыца „Палажэньне Літоўска-Беларускай дзяржавы пасьля Люблінскай вуніі". Але затое ў трэцім артыкуле В. Воўк-Левановіча „Гістарычнае вывучэньне беларускай мовы ў славянскай філёлёгіі" знаходзім нешта такое, што адразу перакрэсьлівае ўсё і без таго мізэрную беларускасьць кніжкі. Паўстае пытаньне, ці не памылілася рэдакцыйная калегія, называючы кнігу Працамі Беларускага ўнівэрсытэту? Ці ня трэба было назваць яе працамі Расейскага дзярж. унівэрсытэту? Спрытна апэруючы выцемкамі з працаў акадэмікаў Шахматава, Сабалеўскага і накаторымі неяснымі зданьнямі Карскага, аўтар у працягу 30 старонак падносіць чытачу вывад, што беларускае мовы, як самастойнае філёлёгічнае адзінкі німа, а ёсьць толькі беларускае „наречие" адзінай расейскай мовы. Праўда аўтар тут-жа дадае ў свае апраўданьне, што спрачацца па поваду „мовы" ці „наречия" ня варта, бо права беларускае мовы не гістарычнае, а натуральнае, але пацеха з гэтага слабая.

„Працы", як афіцыяльнае выданьне Бел. унівэсытэту, маюць прэтэнсію на тое, каб іх чыталі і нават чыталі як падручнік, нешта навукова безапэляцыйнае, перадусім слухачы ўнівэсытэту. Добрых-жа сьвядомых беларускіх інтэлігентаў будземо мець у асобах скончыўшых Менскі унівэрсытэт, калі іх будуць вучыць па гэткіх падручніках!

На ўнутранай старонцы вокладкі пад зьместам знаходзім: „Менск, 1-ая дзярж. друкарня Б. Г. И. Тіраж 1000". Гэта адзіная пацеха, хаця 1000 экзэмпляраў ідэйнае труцізны могуць атруціць мільён добрых навуковых ід йна беларускіх кніжак. І апрача гэтага робіцца ясным, што выданьне гэтае труцізны — рэч прынамсь недаходвая, а пэўне каштуе шмат дзяржаўных грошаў, якія спаганяюцца з беларускага сялянства, дый ідупь на русыфікацыйныя мэты.

## Паштовая скрынка.

Сэкратару гуртка „Прасьветы" ў Трабах. Вы пішаце, што з болем у сэрцы прачыталі брудны ліст М. Станкевічанкі, і што шкада яе пісаньня, бо вёска глядзіць на яе, як на безвартасьцёвую асобу і гадзіну, якая добра сябе выявіла на Маладэчанскім зьездзе, справакаваўшы ўсю выбарную акцыю, і што ёй няма больш мейсца ў „Прасьвеце"...

К. С — На Ваша пісьмо, у якім Вы пішаце аб ашуканстве Вас быўшымі павадырамі разам з М. Станкевічанкаю, дадзім адказ у лісьце. Газэту „Граманзянін" высылаем.

Цікава адцеміць гэтыя галасы з таго райёну, які быў быццам пад уплывам М. Станкевічанкі.

П. Нацевічу — Паўнамоцніку вёскі Іванцавічы Маладэчанскага павету. Заяву і квіток школьнага інспэктарату аб атрыманьні дэклярацыяў на бел. школу для 44 дзяцей — атрымалі.

Гурток Бел. Інст. Гасп. і Культ. у в Лукашэвічы, Свянцяцскага павету — пісьмо атрымалі. Газэту будзем высылаць. Filja Gebethner i Wolf у Варшаве — Газэту па 4 экз. будзем высылаць.

А. Крыніцкаму. Прысланыя вершы патрабуюць пераробкі.

## Кутох жартаў і сьмеху.

### Апрача двух.

— Ці гэта праўда, што пан дае сабе рады з усімі сучаснымі мовамі?
— Так, апрача двух.
— Якія жа гэта найбольш трудныя?
— Мова маей жонкі і цёшчы.

### Да каторага?

— Пан ёсьць унявінены ў падазронасьці ў двайжонстве. Можа пан іці да дому да сваей жонкі,
— Да каторай?

### Кончылася.

— Як-жа жывеш з Мікалаем?
— Ужо год, як не размаўляем між сабою,
— Пасварыліся, ці што?
— Не, ён ажаніўся на мне.

### На экзамені

— Якая самая магутная вадзяная сіла на сьвеце?
— Сьлёзы жанчыны—пане вучыцель,

### Помста.

— Не магу даць сабе рады з маім мужам: гавора бязупынку ў сьне.
— Гэта дзеля таго, што пани не даіцё яму сказаць слова ў дзень.



Адказны Рэдактар—Выдавец Тодар Вернікоўскі

Белар. Друк. Ім. Фр. Скарыны. Вільня